




П. КРАСАВІЦКІ.

# ВІЦЕБСКАЯ ІЛЬЛІНСКАЯ ЦАРКВА.

13-га красавіка 1904 г., у часе пажару, згарэла Віцебская Ільлінская царква—адзін з выдатных помнікаў беларускага будаўніцтва. Гэтая драўляная царква належыла да пашыранага калісьці ў Беларусі тыпу. У аснове пляну яе ляжаць бізантыцкія ўплывы, а ў конструкцыі будынку, у пабудове вярхоў яе і ў дэталях—яскравы адбітак будаўніцтва Заходняе Эўропы. Плян гэтага тыпу цэркваў—крыжовы, пры чым усходні, паўночны і паўднёвы канцы крыжа закруглены. Такі тып крыжовых грэцкіх каменных цэркваў існуе і да цяперашняга часу на Блізкім Усходзе. На руінах Хэрсонэсу ёсьць фундамэнт такога тыпу царквы, а ў м. Азове на аналёгічным фундамэнце X ст. адноўлена ў нядаўнія часы царква Яна Прадцечы. Але па тэхнічных умовах і адпаведна распашыранаму матар'ялу ў Беларусі атрымалі перавагу драўляныя будынкі. Пры гэтым выніклі зьмены ў самым пляне;—з прычыны таго, што паўкруглыя формы будынку не ўласьцівы дрэву, яны перайшлі ў многасьценьнікі і такім чынам апрацаваліся свае ўласныя формы: гэтыя цэрквы большаю часткаю складаліся ў пляне з двох прадоўжных зрубаў, перасечаных пад простым вуглом, пры чым кожны з зрубаў рабіўся даўжынёй каля трох квадратаў; у перасячэньні зрубаў узвышалася асяродкавая вежа царквы, а бакавыя часткі зрубаў мелі форму палавінных васьмісьценьнікаў, на якіх уздымаліся чатыры вежы меншых памераў за сярэднюю. У конструкцыі горняе часткі такога тыпу цэркваў назіралася вялікая рознастайнасьць. У Беларусі такога тыпу цэрквы маюць на думку некаторых аўтараў „адценьне паўночнай архітэктуры“ [1]), што выяўляецца ў шатровым характары вярхоў. Пры гэтым шатры ідуць непасрэдна з рагоў царквы, з самага корпусу яе, і маюць адпаведна пляну царквы заходні шацёр—чатырохспадную, а іншыя—васьміспадную форму. Шатры канчаюцца васьмярыкамі большай ці меншай велічыні з галоўкай або цыбулінай васьмісьценнае формы, або барочным верхам. У болей простай форме мы бачым

[1]) В. Суслов. Памятники древней деревянной архитектуры в Южной России, стар. 29-30.

конструкцыю вярхоў царквы ў Тупічэўскім Мсьціслаўскім манастыры, дзе дзьве двохспадныя страхі, перакрыжаваныя пад асяродкавым васьмярыком цэнтральнага кумпалу, канчаюцца на канцох крыжа накшталт шатроў, пры чым па краёх грэбню страхі стаяць невялікія галоўкі. Большая частка цэркваў гэтага тыпу ў Беларусі належыць да XVII ст. З іх ліку можна назваць Траецкую царкву Віцебскага Маркава манастыра, згарэўшую Якабштадзкую царкву, дзьве царквы Аршанскіх манастыроў і нарэшце захаваную да цяперашняга часу царкву Тупічэўскага Мсьціслаўскага манастыра.

У Віцебску да памянёнага тыпу належалі тры царквы: Ільлінская, Яна-Багаслоўская, якая згарэла ў 60-х годах мінулага сталецьця і Спаса-Праабражэнская, разабраная з прычыны старасьці ў пачатку таго самага сталецьця. Іншыя Віцебскія цэрквы, як паказвае стары плян Віцебску 1664 г., былі пабудаваны часткова па тыпе базылік (напр. драўляная Сямёнаўская), часткова-ж у відзе двохшатровых цэркаў з вялікім цьвінтаром (Рынкава-Васкрасенская). Гэты тып можна бачыць яшчэ ў м. Копысі на Магілеўшчыне, а таксама ў так званай „Чорнай Тройцы" на Пескавацiку ў Віцебску, якая мае від крыжа з васьмісьценьнікам у асяродку.

Што да конструкцыі згарэўшай Ільлінскай царквы, дык гэта быў будынак не асабліва вялікіх памераў па даўжыні і шырыні (19×16 мэтраў), але вялікі па сваёй вышыні. Асаблівае ўражаньне рабіла гэтая царква раней як страху яе накрылі жалезам у 1887 г. Чорныя сьцены, чорная гонтавая страха і зялёныя цыбуліны—усё гэта павявала старасьветчынай, мінулым своеадменным жыцьцём Беларусі. Царква стаяла на высокім абтынкаваным цагляным фундамэнце; у яе вялі тры вялікія, накрытыя шатрамі з галоўкамі ганкі, і далей дзьверы, абшаляваныя вузенькімі дошчачкамі, аздобленымі вялікімі галоўкамі цьвякоў. Пры ўваходзе раней за ўсё прад вачыма адчынялася вузкая глухая галярэя, якая акаляла з трох бакоў заходні канец царквы, мізэрна асьветленая з дапамогай шасьці ня крыжападобных, як памылкова зазначана ў брошуры А. Сапунова, але квадратовых пастаўленых на кут вокан [1]). На ўсходніх сьценах галярэі вісела некалькі абразоў пазьнейшага беларускага пісьма. У правым крыле галярэі зьвяртала на сябе ўвагу ікона ўкрыжаваньня „в лоне отчем". Ікона гэтая знаходзіцца цяпер у віцебскім аддзяленьні Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Трэба адзначыць, што ўсходнія сьцены правага і левага крыла мелі вэртыкальную ашалёўку, як беспасрэдны працяг надворнай ашалёўкі паўднёвага і паўночнага канцоў крыжа, г. зн. асноўнага кор-

[1]) Гл. наш даклад: „Памятники церковной старины Полоцко-Витеб-" ў кнізе 1 „Полоцко-Витебской старины", 1911, табліца 3.



Плян Ільлінскае царквы ў Віцебску.

пусу царквы; гэта дае магчымасьць думаць, што галярэя зьяўлялася пазьнейшай прыбудоўкай. Адносна шатровых ганкаў вядома са слоў сьвяшчэньніка царквы, які служыў тут з 1870 па 1879 г., што яны пабудаваны архітэктарам Плюшчэўскім-Плюшчыкам, здаецца, у 50 ці 60 г. г. мінулага сталецьця.

Напэўна і пакрыцьцё галярэі належала да таго самага часу. Столі галярэі былі апрацаваны падобна да карабовых скляпеньняў. Над галоўнымі ўваходнымі дзьвярыма знаходзіўся незразумелы па сваім значэньні надпіс „1643",—чорнай фарбай, арабскімі лічбамі, характарам пісьма—пазьнейшага часу. У самыя апошнія часы перад пажарам нехта па гэтым надпісу прайшоў нажом і далучыў да яго слова „года". Пасьля прысадзістага і вузкага калідору—прытвору, асабліва ўражаньне рабілі прастора і вышыня царквы, затопленай у змроку. Шыбы вокан у валавяных рамах з дробнымі пераплётамі сьвяціліся ўсімі колерамі вясёлкі. Асабліва таемнае сьвятло пранікала праз разьбу бакавых кіотаў з скульптурнымі матава-залачонымі фігурамі анёлаў і сьвятых, а таксама праз кваціcтыя шклы скляпеньня. Над уваходам з заходняга боку знаходзіліся хоры. Сьцены царквы былі груба высечаны. У перакрыжываньні зрубаў канцы асноўнага крыжа былі зьвязаны адзін з другім на манер арак плоскаэліптычнае формы. У процілеглых канцох яго былі падшыўныя дашчатыя столі з невялікай выгнутасьцю ў гару (пераймаьне каменных будынкаў). У асяродку над рубленымі парусамі быў рублены высокі васьмісьценны шацёр, які аддзяляўся ад васьмярыка кумпалу вышэйпамянёным шкляным скляпеньнем. Сьцены былі афарбаваны кляёвай фарбай. Апроч галярэі і заходняга

зрубу царквы, дзе падлога была драўляная, падлога складалася з шасьцікантовых цагляных плітак, а ў асяродку будынку шырокія дзьверы зачынялі сходы ў пад'альтарны склеп. Альтар аддзяляўся лёгкім трох'ярусным з круглымі мэдальёнамі ў разьбе над ім іконастасам, пастаўленым па ламанай лініі, конструкцыя якога была зусім аналёгічнай іконастасам Мікольскай гарнізоннай (зьнішчанай у другой палове XVIII ст.), Петрапаўлаўскай і Васкрасенска-Заручаўскай віцебскіх цэркваў канца XVIII і пачатку XIX ст. (у апошняй царкве іконастас—рэпродукцыя пасьля пажару), а характар аздобы—бліжэй за ўсё да іконастасу і кіотаў Сямёнаўскае царквы 1802 г., з пілястрамі корынфскага ордэру і прыгожай, строгага рысунку разьбой. Непасрэдна за іконастасам па абодвых баках пры сьценах зьмяшчаліся вялікія кіоты—бакавыя альтары каталіцкага тыпу, з іх ліку 4 вялікія ад падлогі да столі, двох'ярусныя з праразнымі, вітымі корынфскімі колюмнамі, з пышнай бакавой і верхняй разьбой у стылі барокко. Абразы ў іконастасе былі італьлянскага пісьма. На альтарох стаялі масыўныя алавяныя шандалы, па 4 на кожным, з доўгімі сьвечкамі жоўтага воску. Першы справа бакавы альтар быў ахвяраваны праpоку Ільлі. Пад ім, як кажуць старыя людзі, знаходзілася труна будаўніка царквы Запольскага. Наступны альтар з правага боку быў ахвяраваны нараджэньню хрыстову, зьлева—альтар з іконай прачыстай з дзіцянём, якая намалявана ў моднай вопратцы XVIII сталецьця з шнуроўкай і шлейфам; наступны альтар багародзіцы „скорбящей“ і далей—арханела Міхала. Зьлева перад альтаром стаяў на прыгожым у стылі рококо чатырохножным постамэнце выносны абраз, овальнай формы—багародзіца з младзенцам, на адвароце—узяцьце пр. Ільлі на неба.

Клірасы былі рухомыя, агароджаныя глухой сьценкай сьпераду і ззаду, з палічкамі для кніжок на пярэднай сьценцы. Падлога, як у царкве, гэтак і ў альтары, была на адным узроўні, аддзяляючыся толькі драўляным прыступкам—парогам у бакавых дзьвярох, ды ад прастолу і перад сярэднімі альтарнымі дзьвярыма быў падняты на адзін прыступак памост. Да 60-х годаў бакавыя кіоты альтара былі багата прыбраны статуямі, якія цяпер знаходзяцца ў Віцебскім аддзяленьні Беларускага Дзяржаўнага Музэю. У альтары зьвяртаў на сябе ўвагу вялізарны, у стылі барокко, кіот-альтар з іконай паднясеньня крыжа, які замяніў ранейшае разьбярнае ўкрыжаваньне. Кіот канчаўся разьбярнай групай Праабражэньня. Справа ад альтара знаходзілася рызьніца, зьлева—панамарня, якія асьвятляліся маленькімі круглымі вакенцамі. З панамарні праз забіты дошкамі ганачак быў выхад на двор.

Адзначым некаторыя конструкцыйныя асаблівасьці Ільлінскае царквы ў параўнаньні да іншых цэркваў гэтага тыпу. У



Агульны выгляд Ільлінскае царквы ў Віцебску да пераробак 1887 году.

той час, калі звычайна даўжыня і шырыня такога тыпу цэркваў раўняецца тром квадратам, г. зн. ў пляне ляжыць роўнаканцовы грэцкі крыж,—тут мы бачым пераход да лацінскага крыжа, шляхам скарачэньня паўночнага і паўднёвага зрубаў, якія маюць выгляд пяцісьценьнікаў. Гэтаю зьменаю ў пляне, выкліканай, мабыць, заходняй тэндэнцыяй будаўніка, абумоўлены і наступныя конструкцыйныя асаблівасьці: зрэзаўшы бакавыя зрубы ў пляне, будаўнік ня меў магчымасьці ў гэтых мясцох зьвесьці падобныя да сярэдняга рубленыя шатры, як гэта мы бачым у тыповых узорах XVII ст. (Віцебская Траецкая царква Маркава манастыра; царква Тупічэўскага манастыра); ён павінен быў узяцца за пабудову звычайных столяй, але надворныя шатры над гэтымі столямі прыходзілася-б насунуць на цэнтральны шацёр, так што яны прадстаўлялі-б з ім як-бы суцэльную масу. Каб ухіліцца ад гэтага, будаўнік даў больш стромкі нахіл нутраным спадам шатроў, зрабіўшы пры гэтым ня тры, але два спады ўсярэдзіну, так што шатры зрабіліся не 8, а 7-сьценнымі. Здалёку, у пэрспэктыве, гэтая крывабокасьць шатроў ня была прыкметнай і зьвяртала на сябе ўвагу, толькі гледзячы па

ўсходня-заходняй восі будынку. Зусім орыгінальна была сконструіравана асяродкавая вежа царквы. Унутры, у асяродку будынку знаходзіўся васьмісьценны шацёр. Але будаўнік чамусьці не захацеў, каб канты васьмярыка адпавядалі кантам нутранога шатра, а павярнуў гэты васьмярык пад вуглом 22,5°, так што канты васьмярыка былі зьвернуты на ўсход, паўночны ўсход, поўнач, паўночны захад, паўднёвы захад, поўдзень і паўднёвы ўсход. Не зьвяртаючы асаблівай увагі на некаторую асымэтрыю ў разьмяшчэньні вокан, а клапоцячыся аб моцнасьці васьмярыка, на які націскае зьверху другі меншы васьмярык, будаўнік у першым васьмярыку зрабіў ня 8, як памылкова вызначана ў апісаньні Сапунова, але толькі 4 вакны. На гэтую асаблівасьць у пастаноўцы васьмярыкоў зусім не зьвярнуў, між іншым, увагі А. Паўлінаў [1]), вынікам чаго зьявіўся няправільны ў гэтых адносінах рысунак перакрою будынку, не адпаведны фотографічным здымкам царквы. Надворны цэнтральны шацёр будаўнік зрабіў чатырохсьценным, пры чым сьценкі ідуць з вуглоў крыжа; такім чынам паміж нутранымі і надворнымі шатрамі атрымалася прастора, якой можна было пераходзіць на вышкі, зьмешчаныя па канцох крыжа. Можа быць, адна конструкцыйная асаблівасьць выклікала і іншыя. Скарачэньне бакавых зрубаў абумовіла патрэбу пабудаваць плоскія столі замест шатроў. Такім чынам, пад чатырма бакавымі шатрамі атрымаліся пустыя месцы—вышкі. Каб паміж імі зрабіць праход, прышлося сконструіраваць асяродкавую частку так, каб страха не аблягала зусім шчыльна рублены нутраны шацёр. Гэта выклікала пабудаваньне цэнтральнага надворнага шатра на 4 спады. А далей вока будаўніка патрабавала, каб сьценкі цэнтральнага шатра перайшлі ў сьценкі васьмярыка. Усе гэтыя рысы даюць падставы лічыць, што Ільлінская царква была малодшай з ліку такога тыпу цэркваў, пабудаваных у другой палове XVII сталецьця.

Пераходзім да пытаньня аб часе пабудаваньня царквы. А. Паўлінаў і А. Сапуноў адносяць пабудову яе да XVII ст., але існуюць і іншыя погляды. Згарэўшая Ільлінская царква была ня першай у гэтай мясцовасьці. „Першапачатковая царква“,—піша А. Сапуноў,—„заложана па паданьні ў 1447 г. каралём Казімерам у падзяку за ратунак яго жонкі, якая ледзь не патанула ў Ільлінскі дзень. Царква гэтая знаходзілася, па паданьні-ж, некалькі на ўсход ад навейшай, якая згарэла ў 1904 годзе“. Лёс першай царквы невядомы і ніякіх паданьняў аб ёй не захавалася. У інвэнтарох 1552 і 1618 г. (Витебская Старина, т. I, № 153 і 154) Ільлінская царква не памінаецца. Мабыць у палове XVI ст. царква гэтая ці зусім зрабілася старой, ці згарэла, і затым, па думцы А. Сапунова, у працягу амаль сталецьця не аднаўлялася.

[1]) Труды IX Археологического с'езда, т. I.



Ільлінская царква ў Віцебску пасьля рэмонту 1887 году.

Між тым, пасьля доўгага працягу часу, у XVIII ст., мы знаходзім ізноў сьлед Ільлінскае царквы: „Ужо ў пачатку XVIII ст., а ласьне ў 1717 г. існаваў у Віцебску Ільлінскі прыход, а значыцца існавала і Ільлінская царква“. Далей у Віцебскім музэі захоўваецца келіх, які мае заходні характар, з наступным надпісам: „Ta puszka nadana do cerkwi St. Yllińskiej Hrehory Sipka R. M. W. (г. зн. rajca miasta Witebska) R. P. 1722“. На правым клірасе Ільлінскай царквы знаходзіўся драўляны выносны крыж з выразаным на ім старадаўнім надпісам „1743“. Усё-ж, аднак, на падставе гэтага нельга вызначыць: ці існавала ў гэты час, г. зн. ў першай палове XVIII ст. ўжо іншая Ільлінская царква, як гэта лічыць А. Сапуноў, ці гэта была яшчэ старая, можа быць, адноўленая першая царква, ці, можа быць, нарэшце, з прычыны старасьці набажэнства адбывалася ў прыпісной Пакроўскай царкве, а прыход па традыцыі насіў імя Ільлінскага, як гэта і цяпер мае месца. Такім чынам, паданыя гістарычныя факты не дазваляюць дакладна вырашыць пытаньне аб часе пабудовы царквы. Застаецца зьвярнуцца да агляду архітэктурных асаблівасьцяй і пашукаць гістарычных даных, зрабіўшы крытыч-

ную ацэнку матар'ялу. Сам па сабе агульны тып цэркваў такога характару ў Беларусі можа належыць і да XVII і да XVIII ст. Тое, што вызначана намі вышэй адносна конструкцыйных асаблівасьцяй Ільлінскай царквы, дае магчымасьць лічыць гэтую царкву малодшай у шэрагу пералічаных помнікаў другой паловы XVII ст. Асаблівасьці гэтыя наступныя: 1) набліжэньне пляну будынку да формы лацінскага крыжа; 2) больш простая форма столяй,—ухіленьне ад асноўнага тыпу; апроч гэтага—ўсе памянёныя цэрквы мелі хоры ў відзе балькону ці галярэі, што акаляла значную частку царквы, нагадваючы такім чынам вялікія хоры грэцкіх цэркваў, прызначаныя для багамольцаў (у Грэцыі—жанчын); у той час у Ільлінскай царкве мы бачым іншы тып хораў—балькон каля заходняй толькі сьцяны царквы, г. зн. падобны хорам для органаў у касьцёлах. Бясспрэчна, што калі-б Ільлінская царква была сучасьніцай ці старэйшай за вышэйназваныя будынкі, дык яна мела-б такую самую як і там асаблівасьць, а калі хоры чаму-небудзь былі пазьней зьняты, дык у сьценах былі-б сьляды іх існаваньня. Італьлянскае малярства ў іконастасе і кіотах кажа на карысьць пабудовы апошніх у XVIII ст. Кіоты барокко могуць быць аднесены і да больш раньняга і да пазьнейшага часу, але іконастас і па конструкцыі і па дэталях бясспрэчна позьні. Як вядома, у цэрквах Беларусі XVII і XVIII ст. іконастасы былі масыўныя, з некалькімі ярусамі колюмн, багата аздобленыя разьбой, з іконамі характэрнага беларускага пісьма, якія займалі прытым толькі ўсходнюю сьцяну царквы. Ня думаем, каб былі прычыны замяняць такога роду іконастас бяднейшым, і ў кожным разе, пры пераробцы ў сьценах засталіся-б сьляды. Між тым, наадварот, за іконастасам Ільлінскай царквы можна было бачыць выпускі сьцянных брусоў для падтрыманьня сталасьці іконастасу, спэцыяльна дапасаваных да яго асаблівай, неўласьцівай XVII сталецьцю конструкцыі (у пляне ламаная лінія, замест звычайнай простай; далей ішлі ўжо асобныя кіоты-альтары), што паказвае на сучаснасьць іконастасу пабудове ўсяе царквы. Пераходзім да ацэнкі гістарычных даных аб часе пабудовы царквы. „У опісу Ільлінскае царквы,—піша А. Сапуноў,—складзеным у 1873 г., невядома на якіх падставах сказана: „церковь деревянная, ветхая, во имя пр. Илии, построена витебскими купцами Запольскими в 1746 г.“. Тое самае паўтараецца і ўва ўсіх пазьнейшых кліравых ведамасьцях. Калі складальнік опісу і ня меў докумэнтальных даных у відзе ранейшых опісаў і інш., дык ён мог унесьці прыблізна дакладны тэрмін часу на грунце жывога паданьня. Цікава адзначыць, што ў Віцебскім Музэі ёсьць кахля, аздобленая рэльефнымі надпісамі з нарысам лацінскай літары Z і 1743. Кахля гэтая знойдзена пры земляных работах недалёка ад Ільлінскай царквы, пасярод рэштак багатай сядзібы. Ці не паказвае гэта на сядзібу Заполь-

скіх, якія жылі тут у 40-х гадох 18 ст., і якія мелі адносіны да пабудовы ці аднаўленьня царквы?

Цяпер ацэнім іншыя гістарычныя весткі: падаўшы даныя опісу аб часе пабудовы царквы, А. Сапуноў піша: „але гэта ня так; на дзьверах галоўнага ўваходу выразка было „1643 год“ (нагадваем, што ўласна была пісаная лічба „1643“, а „год“—гэта пазьнейшая тэндэнцыйная прыпіска); вось гэты год і павінен быць прыняты за год пабудовы царквы“. Далей А. Сапуноў пасылаецца на аўторытэт А. Паўлінава і на памянёныя вышэй даведкі аб Ільлінскім прыходзе да другой паловы XVIII ст., як на бясспрэчныя довады, што царква пабудавана раней 1746 году.

Запраўды, прынята было на галоўных дзьверах царквы ці над імі зьмяшчаць даныя аб пабудове і асьвяшчэньні яе, як гэта зроблена напрыклад на дзьверах Траецкай царквы Маркава манастыра. Аднак, у надпісы ў Ільлінскай царкве мы бачым толькі адну лічбу без тлумачэньняў, пры гэтым неакуратна напісаную, характарам пісьма не адпаведным скорапісу XVII ст., а хутчэй за ўсё пазьнейшага пахаджэньня. Так неакуратна адзначыць здарэньне было ня прынята, і няма ніякіх падстаў лічыць гэтую лічбу часам пабудовы царквы; пытаньне застаецца адчыненым, ці вырашаецца на карысьць паказаньня опісу Ільлінскай царквы, які адносіць яе пабудову да 1746 году. Як-бы там ня было, але зьнішчэньне гэтага вельмі каштоўнага і рэдкага ў нашым краі архітэктурнага помніку было вялікай стратай, тым больш, што гэты тып цэркваў з прычыны новых уплываў зусім зьнікнуў і пасьля пажару Ільлінскай царквы адзіным помнікам гэтага тыпу ў Віцебску засталася толькі Траецкая царква Маркава манастыра.

---



